КНІГА НОША
ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
№ 26
чэрвень, 2014
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ АЎТОГРАФ

# Віктар ЖЫБУЛЬ: «Адкрыцці – на кожным кроку...»

**– Шаноўны Віктар Вячаслававіч, Вы сталі пераможцам Першага беларускага слэму і Першага купалаўскага слэму, паспяхова выступаеце на спаборніцтвах слэмераў і цяпер. Што, на Вашую думку, дапамагае заставацца Вам адным з фаварытаў слэмаў. Дайце некалькі творчых парадаў паэтам-пачаткоўцам?**

– Слэм, як вядома, – гэта паэтычнае спаборніцтва, дзе глядацкае журы ставіць адзнакі не толькі за змест, але і за артыстызм. А мы, удзельнікі творчага руху «Бум-Бам-Літ», пачыналі ладзіць паэтычныя выступы з элементамі тэатралізацыі, перформансу яшчэ ў 1990-я гады. Акрамя таго, я выступаў на сцэне разам з музычнымі калектывамі, супрацоўнічаў у якасці дэкламатара з гуртом «Рацыянальная дыета», быў акторам эксперыментальнага тэатра «Ц.У.Д.» («Цэнтр Удасканаленай Драмы»). Так што, можна сказаць, у мяне неблагая «баявая падрыхтоўка».



Выступ на слэме – свайго кшталту кароткі монаспектакль, і таму тут сапраўды шмат у чым дзейнічаюць тэатральныя законы. Маладым паэтам, якія жадаюць паслэміць, параіў бы найперш ведаць свае тэксты на памяць. Тады падчас чытання можна вырабляць усё што заўгодна. Адсутнасць паперкі ў руках дазваляе больш вольна рухацца па сцэне. Можна бесперашкодна ўваходзіць у вобраз і не думаць: «Ой, а што там далей?..» Ну, і візуальны кантакт усё ж павінен быць не з паперкай, а з аўдыторыяй. Калі, вядома ж, гэта адмысловым чынам не абыгрываецца – напрыклад, чытанне на слэме можа быць стылізавана пад выступ на навуковай канферэнцыі, як гэта зрабіў аднойчы Алесь Туровіч.

Ну, а што датычыць выбару тэкстаў… Тут шмат што залежыць ад сітуацыі, ад таго, хто і як выступіў пе-

*(Працяг на стар. 7)* 

**Даведка «Кніганошы»:**

**Віктар Жыбуль – паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Калі ў хаце дывэрсант» (1996), «Рогі гор» (1997), «Прыкры крык» (2001), «Дыяфрагма» (2003), «Стапеліі» (2012) і інш. Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.**




**Каско Алесь. Межавыя знакі: вершы, навелы і мініяцюры, дзённік. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 204 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 52).**

У кнігу вядомага паэта Алеся Каско ўвайшлі выбраныя вершы, напісаныя на працягу мінулых дзесяцігоддзяў, а таксама новыя творы, у якіх аўтар шчыра, прачула і па-майстэрску выяўляе свае душэўныя пачуцці і грамадскія перажыванні аб жыцці, творчасці і беларускай будучыні.




**Бураўкін Генадзь. Нагаварыцца з зоркамі. Уклад. С. Шапрана. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 136 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 53).**

У новую кнігу аднаго з найяскравейшых прадстаўнікоў славутага «філалагічнага пакалення» паэта Генадзя Бураўкіна ўвайшлі выбраныя вершы апошняга часу – 2010–2013 гадоў, большасць з якіх друкуецца ўпершыню.




**Севярынец Павел. Беларуская глыбіня: эсэ. – Вільня: Логвінаў, 2014. – 294 с.**

У кнігу ўключаныя эсэ, напісаныя падчас апошняга зняволення аўтара. Тэксты пісаліся цягам трох гадоў і друкаваліся, па меры іх стварэння, у прэсе. Гэта эсэ пра лёс Беларусі і яе народа, сабраныя пад адной вокладкай. Да папярэдняга выдання Паўла Севярынца, «Лісты з лесу», новая кніга і падобная, і ў той жа час адрозная ад яго. «Тут усё-такі плюс шэсць гадоў, шэсцьсот кіламетраў на поўдзень, і гісторыя ды жыцці пераплеценыя нашмат гусцей. Таму ў «Глыбіні» больш пытанняў, чым адказаў, – распавядае Павел. – На вокладцы зарослы калодзеж, у якім адлюстроўваюцца нябёсы, і дрэвы цягнуцца ў бездань. Беларуская глыбіня – гэта насамрэч імкненне ўгару».




**Гапеева Вольга. Сумны суп. – Мінск: Галіяфы, 2014. – 72 с.: іл – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 4).**

Новая кніга Вольгі Гапеевай «Сумны суп» – гэта гісторыі для дарослых дзяцей і маленькіх дарослых. Тут магчыма ўсё: слоўнікі дапамагаюць парасонам, гузікі шукаюць сэнс жыцця, а вожыкі спрабуюць знайсці адказ на пытанне, якое іх даўно хвалюе, – навошта лічыць авечак. За звычайнымі, здавалася б, размовамі і ўчынкамі герояў хаваюцца філасофскія думкі і разважанні, да якіх можа далучыцца кожны, хто прачытае новую кнігу Вольгі Гапеевай з ілюстрацыямі Марты Герашчанкі.




**Быкаў Васіль. Поўны збор твораў: у 14 т. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – Т. 10, кн. 1: Маладыя гады (1985, 2001). Артыкулы, эсэ, прадмовы, інтэрв'ю, гутаркі, аўтабіяграфіі, выступленні (1957-1980). – 544 с.**

Гэта першы ў гісторыі Поўны збор твораў народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава (1924–2003). Дзясяты том склалі аўтабіяграфічныя дыялогі з А. Адамовічам «Маладыя гады» (1985, 2001), а таксама выбраная публіцыстыка 1957–1980 гг.: артыкулы, эсэ, прадмовы, інтэрв'ю, гутаркі, аўтабіяграфіі, выступленні.




**Быкаў Васіль. Мёртвым не баліць. Без цэнзуры. Укладанне, пасляслоўе, каментарыі С. Шапрана. – Мінск: Медыял, 2014. – 608 с.: [24] с. іл.**

У дадзеным выданні «Мёртвым не баліць» упершыню друкуецца з узнаўленнем усіх купюраў, без цэнзуры. Другая частка кнігі апавядае пра гісторыю стварэння, публікацыі і крытыкі аповесці; у «Каментарыях» разглядаюцца тэксталагічныя разыходжанні паміж рознымі публікацыямі твора. Выданне ажыццёўлена да 90-годдзя з дня нараджэння Васіля Быкава.




**Быкаў Васіль. Ліквідацыя. Без цэнзуры. Падрыхт. тэксту, пасляслоўе, каментарыі С. Шапрана. – Мінск: Медыял, 2014. – 368 с.: [16] с. іл.**

У гэтым выданні хрэстаматыйная аповесць Васіля Быкава ўпершыню друкуецца з узнаўленнем усіх купюраў, без цэнзуры і пад сваёй першапачатковай назвай. Другая частка кнігі апавядае пра гісторыю стварэння, публікацыі і крытыкі аповесці; у «Каментарыях» разглядаюцца тэксталагічныя разыходжанні паміж рознымі публікацыямі твора. Выданне ажыццёўлена да 90-годдзя з дня нараджэння Васіля Быкава.




**Прыёмка Сяргей. Белая варона: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 92 с.**

На сёння да людзей, якія размаўляюць на роднае мове, ставяцца як да белых варон. Пажадана, каб праз нейкі час тых, хто не ўжывае дзяржаўную беларускую мову, лічылі белымі варонамі – выключэннем ад нормы. У кнігу ўвайшлі вершы, гумар, байкі, рыфмаваныя цытаты, песні і пераспевы, цыкл вершаў, прысвечаных месяцам года, а таксама пераклад песняў з кружэлкі «Музычны глобус», якую ў 1979 годзе запісала і выдала ў продаж фірма «Мелодыя».

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Храптовіч-Буцянёва Вольга. Злом (1939–1942): успаміны. – 2-е выд. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 280 с.**

Кніга ўспамінаў графіні Храптовіч-Буцянёвай – з'ява ўнікальная. Як вядома, род Храптовічаў на працягу стагоддзяў адыгрываў адну з вызначальных роляў у Вялікім Княстве Літоўскім, Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі. Але фінал атрымаўся трагічны. У выніку бальшавіцкай навалы 1939 года палац і бібліятэка ў радавым маёнтку Шчорсы былі разрабаваныя і знішчаныя, а ўладальнікі сядзібы апынуліся хто ў турме, хто ў далёкім выгнанні. Менавіта пра гэта балючая кніга ўспамінаў «Злом».




**Усеня Алесь. Грэх: раман. – Мінск: Медысонт, 2014. – 640 с.**

Вера, Надзея, Любоў... Мала хто ведае, што гэта не проста ўстойлівае словазлучэнне, а імёны маленькіх дзяўчынак, якія ў II ст. н.э. на загад рымскага імператара Адрыяна былі жорстка закатаваныя і забітыя, бо не пажадалі адрачыся ад Хрыста. Пра іх духоўны подзвіг расказваецца ў рамане.

Іўдзейскае паўстанне, пасля якога яўрэі на дзве тысячы гадоў страцілі сваю тэрыторыю, інтрыгі і барацьба за трон у Рымскай імперыі, а перадусім – гісторыя трагічнага кахання маладых іўдзея і хрысціянкі, – усё гэта знітавана дэтэктыўным сюжэтам.




**Абламейка Сяргей. Настальгія: падарожная проза. – Мінск: Галіяфы, 2014. – 412 с.**

Тэксты Сяргея Абламейкі вызначаюцца нячастай у беларускай літаратуры эстэтыкай бессюжэтнай прозы. У сваіх падарожных эсэ ён злучае прозу, паэзію і публіцыстыку. Дзе б і куды аўтар ні вандраваў, усе яго падарожжы заканчваюцца ў беларускай культурнай і гістарычнай прасторы.




**Лукашук Аляксандр. Вяртанне нацыяналіста: дакументальныя творы. – Мінск: Галіяфы, 2014. – 768 с.: іл.**

Кнігу беларускага пісьменніка і публіцыста Аляксандра Лукашука склалі 5 дакументальных даследаванняў беларускай гісторыі XX стагоддзя: «Здзек», «За кіпучай чэкісцкай работай», «Філістовіч. Вяртанне нацыяналіста», «Прыгоды АРА ў Беларусі», «След матылька. Освальд у Менску».

У кнізе выкарыстаныя фота з Архіва Гувераўскага Інстытута вайны, рэвалюцыі і міру, ЗША; Дзяржаўнага архіва кінафотафонадакументаў РБ; Нацыянальнага архіва РБ.




**Симанович Давид. Дней разорванные звенья: из старых тетрадей. Поэзия и проза. – Минск, 2013. – 104 с.**

«Дней разорванные звенья» – гэта паэзія і проза са старых сшыткаў Давіда Сімановіча, лаўрэата Шагалаўскай прэміі і прэміі імя Уладзіміра Караткевіча. У кнігу ўвайшлі выбраныя апавяданні пра Багрыцкага, вершы розных гадоў, паэмы і балады, што раней не публікаваліся. У ўсё гэта, нібы разарваныя звёны, злучаецца ў адзін ланцуг творчасці Давіда Сімановіча, аўтара больш за трыццаці кніг паэзіі і прозы.




**Свечнікаў Раман. Рома едзе. Кніга 1. – Вільня: Логвінаў, 2014. – 272 с.**

У кнізе сабраныя нататкі Рамана, што апісваюць першую частку ягонай кругасветкі, маршрут якой пралёг праз Грузію, Арменію, Іран, Азербайджан, Расію, Манголію, Кітай, Лаос і Тайланд. Гэта не звычайныя запіскі падарожніка: тут амаль адсутнічаюць апісанні гарадоў і парады турыстам. Гэта падарожжа ў пошуках сябе і спасціжэння свету…




**Азёрная школа паэзіі: творы фіналістаў літаратурнага конкурсу імя Максіма Танка. Укладальнік А. Хадановіч. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 134 с.**

У зборнік увайшлі творы і пераклады Андрэя Адамовіча, Аляксея Арцёмава, Сабіны Брыло, Нупрэя Бухановіча, Андрэя Вылінскага, Кацярыны Глухоўскай, Ігара Канановіча, Паўла Капанскага, Уладзя Лянкевіча, Уладлены Малашчанкі, Ганны Мананковай, Таццяны Нядбай, Марыі Пушкінай, Наталлі Рак, Антона Рудака, Наталлі Рудак, Ёхе Кім Урга, Цімура Хоміча, Юліі Цімафеевай, Волі Чайкоўскай і Ганны Янкуты.




**Грабал, Багуміл. Я абслугоўваў ангельскага караля: раман. Пер. з чэшск. Марыі Мартысевіч. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 258 с. – (Чэшская калекцыя).**

Раман «Я абслугоўваў ангельскага караля» – гісторыя жыцця чэшскага кельнера-недаростка Яна Дзіце, расказаная ім самім. Галоўны герой мерае свет раскошнымі міжваеннымі рэстарацыямі, у якіх яго муштравалі, а людзей – VIP-кліентамі, якіх яму даводзілася абслугоўваць; прагне зрабіцца мільянерам, але дасягае ўнутранай свабоды толькі страціўшы ўсё, што меў. Жыццёвую філасофію ва ўсіх сэнсах маленькага чалавека Грабал сервіруе ў комплексе з гісторыяй Чэхаславаччыны 1918–1948 гг.

# Казкі свайго горада расказалі выпускнікі Школы маладога пісьменніка

У пятніцу 6 чэрвеня выніковай вечарынай «Казкі твайго горада» скончыўся навучальны марафон у Школе маладога пісьменніка, якая працуе пры ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» ужо другі год. Прыемна, што наведваць заняткі сёлета змаглі не толькі мінчане, але і маладыя аўтары з рэгіёнаў: Горадні, Гомеля і Магілёўскай вобласці. Спадзяемся, у наступным годзе будзе не горай!

Літаратурныя чытанні маладых аўтараў адбыліся ў галерэі «ЦЭХ». Сёлета Школа працавала толькі з прозай, практычныя семінарскія заняткі вялі празаікі Наталка Бабіна і Людміла Рублеўская, тэорыю выкладала навуковец, літаратуразнаўца Ганна Бутырчык, каардынавалі працу Школы Юлія Цімафеева і Алена Казлова. Гэтым разам да фіналу навучальнага года дабраліся шаснаццаць маладых празаікаў – усе тыя, хто выконваў пісьмовыя творчыя працы, наведваў заняткі, удзельнічаў у жыцці Школы і цяпер рыхтуе Школьны зборнік прозы. Гэта Марыя Бяльковіч, Андрэй Лазуткін, Анастасія Кацюргіна, Вольга Агапонава, Павел Якуць, Юлія Мароз, Мілана Пасанен, Зоя Іванюціна (бабуля Міланы), Аляксей Карпека, Мікіта Волкаў, Ксенія Шталянкова, Антон Рудак, Міраслаў Шапавалаў, Лілія Гусарава, Дар'я Латышава, Артур Камароўскі.

Выкладчыцы Школы: Наталка БАБІНА, Ганна БУТЫРЧЫК, Людміла РУБЛЕЎСКАЯ.

Жадаючых паслухаць і ацаніць тое, чаму ж навучыліся маладыя аўтары за год, набралася цэлая зала. Адкрываў вечарыну старшыня СБП Барыс Пятровіч, павіншавалі вучняў з выпускам выкладчыцы, дыпломы ўручылі каардынатары Школы, мадэравалі чытанні выпускнікі Ксенія Шталянкова і Андрэй Лазуткін, напрыканцы імпрэзы маладыя празаікі адказалі на пытанні глядацкай залы. На вечарыне таксама выступіў музычны гурт «Нельга забыць».

**Алена Казлова**
**для lit-bel.org**



**Чыгрын Сяргей. Гісторыя Слоніма на старых фотаздымках і паштоўках (1900–1950). – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 92 с.**

Кніга Сяргея Чыгрына адлюстроўвае аблічча Слоніма, яго архітэктуру, помнікі, падзеі, а таксама людзей, якія жылі ў першай палове XX стагоддзя ў гэтым старажытным і багатым на гістарычныя факты горадзе над Шчарай. Фотаздымкі і паштоўкі з архіва аўтара.



**Тамковіч Алесь. Міхаіл Пташук: Зорка беларускага кіно. – Мінск: «Харвест», 2013. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»)**

Міхаіл Пташук (1943–2002) – выдатны кінарэжысёр, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі. З яго іменем звязана цэлая эпоха ў беларускім кіно. Ён экранізаваў творы Васіля Быкава «Знак бяды», Уладзіміра Караткевіча «Чорны замак Альшанскі», Івана Шамякіна «Вазьму твой боль». У фільмах перабудовачнай пары М. Пташук спрабаваў пановаму ўсвядоміць гісторыю краіны – «Наш браняпоезд», «Кааператыў «Палітбюро», альбо Будзе доўгім развітанне». Гучны поспех мела карціна «У жніўні 44-га».



**Трансфармацыі ментальнасці беларусаў у XXI ст.: Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі (Мінск, 24 лістапада 2013 г.) Пад рэдакцыяй А. Я. Тараса. – Рыга: Інстытут беларускай гісторыі і культуры. – 2013. – 312 с.**

Зборнік матэрыялаў канферэнцыі налічвае 19 дакладаў, з якіх 9 на беларускай мове і 10 на расейскай. Адпаведна мове, зборнік падзелены на дзве часткі. Сярод аўтараў – сацыёлагі, эканамісты, палітолагі, культуролагі, пісьменнікі.



**Пануцэвіч Вацлаў. Літва і Жамойдзь. Розныя краіны і народы. – Мінск: Харвест, 2014. – 304 с.: мал. – (Неизвестная история)**

Гэтая кніга дасюль заставалася невядомай чытачам у Беларусі. І вось прыйшоў час выправіць такую загану. Нягледзячы на тое, што сваё даследаванне Вацлаў Пануцэвіч выканаў 60 гадоў таму, яно па-ранейшаму мае значную каштоўнасць для суайчыннікаў. У першую чаргу гэта тычыцца пераканаўчага доказу ім таго факту, што ліцвіны (продкі цяперашніх беларусаў) і жамойты (продкі цяперашніх летувісаў) былі рознымі народамі, якія гаварылі на розных мовах, жылі на розных землях, мелі розныя культурныя традыцыі.



**Запісы таварыства аматараў беларускай гісторыі імя Вацлава Ластоўскага. Выпуск 3. 1863 год: Шляхецкае паўстанне ці народная рэвалюцыя? Укладальнік і рэдактар А. Я. Тарас. – Рыга: выданне ІБГіК, 2014. – 224 с.**

Трэці выпуск «Запісаў ТАБГ», як і папярэдні, з'яўляецца тэматычным. Гэта зборнік матэрыялаў навукова-практычнай канферэнцыі, якую правёў Інстытут беларускай гісторыі і культуры 21 снежня 2013 г. у Мінску. Уважлівае вывучэнне змешчаных у выданні тэкстаў упэўніць чытача ў тым, што паўстанне 1863 года на Беларусі мела ўсе прыкметы народнай рэвалюцыі. Пра што сведчаць назвы артыкулаў: «Паўстанне 1863 года як пераломны этап у фармаванні беларускай нацыі і беларускай нацыянальнай ідэі» (А. Астапенка), «Паўстанне 1863 года і фармаванне палітычнага руху на Беларусі» (С. Шабуневіч), «Кастусь Калиновский: секреты магнетизма белорусского Че Гевары» (А. Галкін).



**Гардзееў Юры. Цывільна-вайсковыя парадкавыя камісіі ў Вялікім Княстве Літоўскім у часы Чатырохгадовага сойма (1789–1792). Пераклад з польскай мовы Аліна і Зміцер Бяльлевічы. – Смаленск: Інбелкульт, 2014. – 436 с.**

Кніга прысвечана разгляду дзейнасці цывільна-вайсковых парадкавых камісій, якія былі заснаваныя ў Рэчы Паспалітай у 1789 г. і паклалі пачатак мясцовай адміністрацыі на літоўскіх і беларускіх землях. Нягледзячы на тое, што камісіі спынілі існаванне ўлетку 1792 г., у час вайны з Расіяй, станоўчыя эфекты іх дзейнасці несумненныя. Праз прызму дзейнасці парадкавых камісій вымалёўваецца ўсебаковая панарама жыцця тагачасных гарадоў: праблемы добраўпарадкавання іх прасторы, стану аховы здароўя і аптэкарскай справы, адукацыі, стаўлення мяшчан да юрыдык ды габрэйскага насельніцтва, адносін гарадоў да старастаў.



**Следча-судовая справа Кастуся Каліноўскага. Уклад. З. Кузменка. – Мінск: Галіяфы, 2014. – 142 с.**

Кніга ўяўляе сабой поўнае выданне архіўнай следча-судовай справы кіраўніка паўстання 1863–1864 гг. на тэрыторыі Літвы і Беларусі, якая захоўваецца ў Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве ў фондзе Часовага палявога аўдытарыята пры штабе камандуючага войскамі Віленскай ваеннай акругі. Сярод дакументаў справы – паказанні, дадзеныя ў следчай камісіі, пратаколы судовых пасяджэнняў, выніковыя даклады-заключэнні і службовая перапіска расійскіх ведамстваў. Акрамя тэкстаў усіх матэрыялаў справы ў кнізе змешчаныя факсімільныя выявы найбольш важных і цікавых дакументаў. Выданне адрасуецца адмыслоўцам-даследчыкам, выкладчыкам, навучэнцам і ўсім, каго цікавіць айчынная гісторыя.



**Пятраўскас Рымвідас. Літоўская знаць у канцы XIV–XV ст.: Склад – структура – улада. Пераклад з літоўскай мовы Алесь Мікус. – Смаленск: Інбелкульт, 2014. – 386 с.**

Праца сучаснага літоўскага гісторыка Рымвідаса Пятраўскаса – спроба сінтэзу персанальнай і сацыяльнай гісторыі. З аднаго боку, аўтар імкнецца вызначыць паходжанне літоўскай знаці і паказаць яе генеалагічнае развіццё, а з іншага боку, спрабуе раскрыць структурны пералом унутры згаданай знаці, які адбыўся ў XV ст. Абедзве асноўныя праблемы разглядаюцца з улікам досведу еўрапейскай гістарыяграфіі.



**Да сваёй гісторыі: Сярэднявечча і Ранні Новы час: зборнік навуковых артыкулаў, прысвечаных памяці Паўла Лойкі. Навук. рэд. В.А. Варонін. – Смаленск: Інбелкульт, 2013. – 156 с.**

У зборніку змешчаныя артыкулы, у якіх разглядаюцца розныя аспекты айчыннай і сусветнай гісторыі эпохі Сярэднявечча і Ранняга Новага часу. Асаблівая ўвага нададзена дыскусійным і маладаследаваным аспектам развіцця беларускіх земель у першыя дзесяцігоддзі існавання Рэчы Паспалітай. Зборнік прысвечаны памяці вядомага беларускага гісторыка Паўла Лойкі. Для гісторыкаў і аматараў айчыннай мінуўшчыны.



**Станкевіч Ян. За родную мову й праўдзівы назоў: выбранае. – 2-е выд. – Смаленск: Інбелкульт, 2013. – 742 с.**

У гэтым выданні змешчаныя выбраныя працы вядомага беларускага нацыянальнага дзеяча Яна Станкевіча (1891–1976), якія ў 1910–1970-я гг. друкаваліся на старонках беларускага перыядычнага і неперыядычнага друку як у Беларусі, так і за яе межамі. Друкаваныя працы надзвычай разнастайныя як паводле жанраў, так і паводле тэматыкі.



**«Гародня X – XX стст. Каралеўскі горад з правінцыйным лёсам». – Гродна, 2014. – 534 с. – (Гарадзенская бібліятэка).**

З усіх старажытных беларускіх гарадоў сёння найбольш актыўна даследуецца Гародня. Кніга «Гародня X – XX стст. Каралеўскі горад з правінцыйным лёсам» яшчэ адзін таму прыклад. 11 гісторыкаў з Беларусі і Польшчы ажыццявілі першае ў гісторыі сумеснае беларуска-польскае даследаванне мінуўшчыны горада на сумежжы цывілізацыяў. Аўтары паставілі перад сабой мэту не толькі паказаць уласнае разуменне падзеяў, але і ўзаемна ўшанаваць польскі і беларускі ўнёсак у развіццё Гродна. Адначасова належная ўвага ў кнізе нададзена гродзенскай габрэйскай суполцы, якая была значным дэмаграфічна-эканамічным чыннікам Гродна ад сярэднявечча да XX ст.

Кніга складаецца з арыгінальных тэкстаў, створаных адмыслова для гэтай кнігі і ўкладзеных у чатыры раздзелы: «X – XV стст. Горад рыцараў, дойлідаў і гандляроў»; «XV – XVIII стст. Каралеўскі горад пад Магдэбургскім правам»; «Канец XVIII – пачатак XX ст. Горад супраць Імперыі»; «XX стагоддзе. Змаганне за горад».



**Тамковіч Аляксандр. Найноўшая гісторыя ў асобах. – 2013. – 692 с.: іл.**

У кнізе сабраны палітычныя нарысы пра вядомых у краіне і за яе межамі людзей, якія на працягу апошніх 15–20 гадоў мелі самае непасрэднае дачыненне да найноўшай беларускай гісторыі. Аўтар не толькі нагадвае некаторыя біяграфічныя звесткі, але і аналізуе ролю кожнага з іх у развіцці Беларусі. І яшчэ адзін вельмі важны момант. Артыкулы, аб'яднаныя гэтай кнігай, пісаліся ў розны час, таму сёння можна ўнесці пэўныя карэктывы па датах, фактах і адзнаках, але аўтар НАЎМЫСНА не стаў рабіць гэтага. Людзям тое, што мы думалі ўчора, не менш цікава, чым тое, што мы думаем сёння.



**«І бачу пройдзеныя далі...»: матэрыялы да 100-годдзя Д.К. Міцкевіча. Укл. В. Міцкевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 196 с.**

У кнізе, прысвечанай 100-годдзю Д.К. Міцкевіча (1914–1996), старэйшага сына Якуба Коласа, заслужанага дзеяча культуры Беларусі, арганізатара і першага дырэктара Літаратурнага музея песняра, прадстаўлены рукапісы, дакументы, дарчыя надпісы, бібліяграфія. Многія матэрыялы друкуюцца ўпершыню.



**Запісы Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва. №36. – Навукова-папулярны альманах аб беларускай эміграцыі. – Belarusan Institute of Arts and Sciences: New York–Miensk, 2013. – 754 с.**

Цэнтральная тэма новага нумару альманаху «Беларусаведныя калекцыі» мае на мэце рэпрэзентаваць чытачам разнастайнасць і разнапланавасць эміграцыйнай спадчыны. У тэкстах Наталлі Гардзіенкі і Лявона Карповіча ўпершыню робіцца спроба сістэматызацыі звестак пра беларускія маркі, паштоўкі, значкі, канверты, ідэнтыфікацыйныя дакументы, бланкі, пячаткі і г.д., што друкаваліся і выкарыстоўваліся на Захадзе для своеасаблівага пазначэння беларускай прасторы, для папулярызацыі беларусаў і Беларусі.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:
**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademkniga@tut.by, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43
**«Кніжны салон»,** г. Мінск, вул. Калініна, 5; e-mail: stival.salon@gmail.com, тэл.: +375 17 385 60 89

# «Адкрыцці – на кожным кроку...»

(Пачатак на стар. 1)

рад табой, ад агульнай настроенасці аўдыторыі. Публіка лепей успрымае вершы з выразнай рытмікай і мелодыкай, з запамінальнымі вобразамі, зваротам да розных актуальных тэм. Асабіста ў мяне яшчэ пад час напісання вершаў часам (але далёка не заўсёды) прыходзіць і яскравае адчуванне таго, як яны будуць гучаць са сцэны – то бок, я «прачуваю» іх не толькі сэнсава, і нават не толькі праз словы і гукі, але і праз інтанацыю, жэсты, рухі і г. д. У каго такое адчуванне ёсць – той, думаю, таксама мае шанцы паспяхова выступіць на слэме. Але, вядома ж, у кожнага вершы нараджаюцца па-рознаму.

**– Вы даследуеце беларускую паэзію 20 – 30-х гадоў XX стагоддзя. Што новае для сябе Вы адкрылі, вывучаючы літаратуру гэтага перыяду?**

– Апошнія пяць гадоў маё жыццё звязанае з архіўнай справай, а ў яе такая спецыфіка, што новае для сябе адкрываеш амаль увесь час. Пастаянна знаходзіш невядомыя і малавядомыя сцяжыны гісторыі нашай літаратуры, адчуваеш сябе кімсьці кшталту прыватнага дэтэктыва. Мне падабаецца быць адкрывальнікам і, пры магчымасці, знаёміць са сваімі адкрыццямі іншых. Зрэшты, ад апошняга я ўсё адно нікуды не падзенуся, бо трэба ж выконваць план архіва-музея па публікацыях. Напэўна, найбольш важкі на сёння плён – гэта двухтомавы Збор твораў Адама Бабарэкі, нашага выдатнага пісьменніка, крытыка і мысляра. Я працаваў над укладаннем гэтага выдання. Некаторыя тэксты былі раскіданыя па розных архіўных справах, а аркушы перамяшаныя. Я іх збіраў літаральна як пазлы, прычым даводзілася расшыфроўваць шмат скарачэнняў.

Цяпер вось рыхтую выбраныя творы Міхайлы Грамыкі – аўтара першай у беларускай літаратуры авангардысцкай паэмы «Гвалт над формай». Апошняе яго выданне выйшла яшчэ ў савецкі час, многія яго творы цяпер прачытваюцца ўжо інакш. Скажам, акрамя «Гвалту над формай», крытыкі ў свой час не прымалі і Грамыкаву паэму «Крылан», лічылі яе «не сучаснай», «мала чытэльнай». Паэма напісана быццам бы пра жыццё лётчыка, але пакідае дзіўнае, «прывіднае» ўражанне: у ёй размыты ўсялякія межы паміж рэальнасцю і міфам, сучаснасцю і старажытнасцю, явай і сном… Карацей, яна не адпавядала канонам савецкага літаратурнага «мэйнстрыму». У цяперашнім выданні яна ўпершыню пасля 1927 года будзе перадрукавана ў поўным варыянце. А яшчэ Грамыка – пачынальнік беларускай цэнтоннай паэзіі, пра што нашыя літаратуразнаўцы, здаецца, не пісалі. Напрыклад, ягоны «Наш верш» збольшага складзены з алюзій на творы іншых аўтараў, назваў кніг і нават непасрэдных цытат – падобны прыём скарыстаў у наш час Андрэй Хадановіч у тэксце сваёй песні «Hotel «Belarus».

Некалькі гадоў таму я знайшоў рукапіс зборніка «Васільковы россып» Сяргея Дарожнага. Ён захоўваўся ў архіве крытыка Алеся Кучара – быў укладзены ў самаробную вокладку зборніка «Аржаныя пажары» Віктара Казлоўскага, і таму апошні і лічыўся аўтарам гэтых вершаў. Некаторыя з іх паспелі ўжо выйсці ў часопісах «Роднае слова» і «Тэксты» пад прозвішчам Казлоўскага… Але, выпадкова натрапіўшы ў часопісе «Узвышша» на тыя самыя вершы, я зразумеў, хто іх сапраўдны аўтар. Узяў рукапісы, параўнаў почыркі, саму манеру пісання – і праблема аўтарства была вырашана. Так і ёсць: Сяргей Дарожны!

Багата ў фондзе Кучара і сапраўдных рукапісаў Віктара Казлоўскага. Дзякуючы знаёмству з імі я па-новаму адкрыў для сябе гэтага паэта. Тое, што ён у 1920-х не здолеў апублікаваць, уразіла мяне дэкадансавай скіраванасцю, нагнятаннем змрочных вобразаў кшталту «жыццё з пахам мерзлых ільдзін», «звон паніхідны ліп», «усмешкі смерці», «атрута слёз», «шкілеты дрэў», дзяўчаты «ў чорным убранні», крумкачы, крыжы, магілкі... А ёсць і наадварот вясёлафрывольнае: «Спадніца ўзнімецца па плечы…». Як мне падалося, найбольш цікава і шматгранна ўнутраны свет паэта раскрываецца якраз у творах, якія друку ў той час так і не ўбачылі. Я быў так уражаны, што некалькі вершаў Казлоўскага вывучыў на памяць. А нядаўна ў якасці навуковага кансультанта ўдзельнічаў у здымках фільма пра яго жыццё і творчасць – сцэнар напісала Людміла Сяліцкая, а ўвасабляць узяўся рэжысёр Ігар Чышчэня. Разам са здымачнай групай мы пабывалі ў Мрочках, роднай вёсцы Казлоўскага, і сустрэліся з яе старажыламі, якія яшчэ памятаюць паэта. Даведаўся шмат цікавага і планую цягам найбліжэйшага года падрыхтаваць яго кнігу са сваім уступным артыкулам.

Што яшчэ? Некалі я прывёз з Масквы архіў паэта, крытыка і кіназнаўца Паўлюка Шукайлы, а летась – і Змітра Снежкі, беларускага медыка, журналіста, літаратара, актыўнага ўдзельніка эсперантысцкага руху. Пазнаёміўся з партрэтам Якуба Коласа, які намаляваў расійскі футурыст Аляксей Кручоных. Прасачыў, як на беларускай глебе развівалася ў 1920-я гады такая экзатычная форма верша, як малайскі пантум. Аднавіў імя музы Паўлюка Труса. Даведаўся, што сталася з некаторымі беларускімі дзеячамі, чый лёс лічыўся невядомым. Карацей, адкрыццяў шмат, і яны – на кожным кроку.

**– У выдавецтве «Галіяфы» рыхтуецца да друку Вашая новая кніга вершаў – «Дзяцел і дупло». Распавядзіце, калі ласка, нашым чытачам якой будзе новая кніга?**

– «Новая» – панятак даволі адносны. Задумана яна даўно, і лепей было б, калі б яна выйшла гадоў пяць таму. Я імкнуся, каб кожная мая кніга мела нейкі свой настрой, свой твар. Папярэдняя кніга «Стапеліі» – даволі змрочная і філасафічная, крытыкі адзначылі ў ёй прысутнасць «катастрафізму». «Дзяцел і дупло» – наадварот, вясёлая, абсурдысцкая, месцамі трохі правакацыйная. Асноўныя яе складнікі – іронія, абсурд, гумар (хоць часам і «чорны»), элементы соц-арту. Многія вершы, што ўвайшлі ў яе, публіка ўжо чытала ў розных выданнях і на інтэрнэт-старонках, чула на паэтычных вечарынах і на тых самых слэмах. Гэта такія, напрыклад, рэчы, як «Доктар Алкаголь», «Серыйны самазабойца», «Ода кланаванню», «Гальванічная трагедыя», «Сенегал», «Дзяўчына цяжкіх паводзінаў», цыкл вершаў пра кантралёраў, кампостары і квіткі «Неаднойчы прабіты» і інш. Хутчэй бы кніга ўжо выйшла!

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Анатоль Дэбіш. Зірні ў люстэрка. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 232 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 48).**

У новую кнігу берасцейскага паэта Анатоля Дэбіша ўвайшлі напісаныя цягам апошніх дваццаці гадоў выбраныя вершы і драматычная паэма «Уваскрэсенне Іуды», у якіх аўтар спалучае фальклорныя традыцыі і сучаснае паэтычнае пісьмо. Анатоль Дэбіш вядомы як аўтар зборнікаў вершаў «Калядная вячэра», «Стодзівы», якія выйшлі ў пачатку дзевяностых.




**Кацярына Оаро. Сарочае радыё. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 94 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

Першая кніга Кацярыны Оаро – маладой беларускай аўтаркі, якая цяпер жыве і працуе ў Францыі – сталася дзясятым выпускам серыі «Пункт адліку». Увазе чытачоў – «свежая» проза і ў простым, і ў пераносным сэнсах. Перад намі – прыклад гарадской моладзевай прозы на вострасацыяльную тэматыку. У аповесці «Сарочае радыё. Лісты падзякі» апісваюцца будні маладой журналісткі, якая працуе на адным з беларускіх незалежных радыё. Месца дзеяння пазнавальнае – гэта Мінск. Настолькі ж пазнавальнымі многім чытачам могуць падацца і сённяшнія беларускія рэаліі, і тыповыя сацыяльныя характары, і першы журналісцкі досвед студэнта-пачаткоўца.




**Параходзік сучаснасці. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 130 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 50).**

Кнігу «Параходзік сучаснасці» можна назваць візітоўкай Школы маладога пісьменніка, якая працуе пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў з 2012 года. Яе склалі вершы, апавяданні і пераклады першага набора навучэнцаў. Цягам васьмі месяцаў Школу наведвалі як пачаткоўцы, так і аўтары, вядомыя чытацкай аўдыторыі. Напрыклад, на старонках зборніка можна прачытаць вершы Рамана Абрамчука, Антона Рудака, Волі Чайкоўскай, прозу Дар'і Вашкевіч, Кірыла Дубоўскага, Насты Манцэвіч ды іншых. Майстар-класы праводзілі Наталка Бабіна, Генадзь Бураўкін, Вера Бурлак, Пятро Васючэнка, Вольга Гапеева, Адам Глобус, Сяргей Дубавец, Сяргей Кавалёў, Інга-Ліна Ліндквіст, Алесь Разанаў, Людміла Рублеўская ды многія іншыя аўтарытэтныя творцы. Практычныя семінары вялі Валянцін Акудовіч і Алесь Пашкевіч, куратарамі паэтаў і перакладчыкаў паэзіі былі Уладзімір Някляеў і Андрэй Хадановіч. Арганізоўвалі працу школы Юля Цімафеева і Алена Казлова.

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ПУП «Радыёла-плюс»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КНІГА НОША
№ 26
чэрвень, 2014
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 26 24.06.2014.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com